наша
свабода
№107(194) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

1 КАСТРЫЧНІКА 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК
Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103
тэл. 228-69-18, 210-02-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com
КОШТ СВАБОДНЫ



# Уратаваць Курапаты ад манкуртаў



Ці спыняць гэтыя крыжы бульдозеры, якія наступаюць на Курапаты... Працяг тэмы на стар.5

## Крок да капіталізму

Для беларускіх пенсіянераў і бюджэтнікаў пачынаюцца цяжкія часы. Дзеля захавання «на плыву» харчовых прадпрыемстваў урад Беларусі быў вымушаны пайсці на ўскрайнія захады – лібералізацыю цэнаў на прадукты.

Тое, што падаецца натуральным у іншых краінах, стала ледзьве не эканамічнай сенсацыяй у Беларусі. Вызваленне маленькай часткі рынку ад кантролю дзяржавы можа пацягнуць расчараванне прадстаўнікоў электарату А.Лукашэнкі ў сваім куміры. Але выбары ўжо прайшлі, і нічога тут не зробіш.

У мінулы чацвер Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову аб скарачэнні спісу сацыяльна значных тавараў і паслугаў, цэны і тарыфы на якія рэгулююцца міністэрствам эканомікі, шасцю абласнымі і Мінскім гарадскім выканкамамі.

Заканчэнне на стар.3

## Сябра Праваабарончага цэнтра «Вясна» — за кратамі

У судзе Ленінскага раёна г. Брэста суддзя А. Рэуцкі асудзіў Паліну Панасюк на 5 сутак арышту за правапарушэнне, прадугледжанае арт. 167-1 адміністрацыйнага кодэкса – парушэнне парадку правядзення мітынгаў і пікетаў.

Віна маладой дзяўчыны складалася з таго, што 19 жніўня ў адным з раёнаў Брэста яна раздавала газету НАША СВАБОДА і «выказвала свае адмоўныя адносіны да абрання прэзідэнтам А.Лукашэнкі».

Спадарыня Панасюк з'яўляецца сябрам «Вясны», але прадстаўнік гэтай арганізацыі не быў дапушчаны да абароны абвінавачанай таксама, як і адвакат. Апроч таго, суддзя ўзбудзіў супраць спадарыні Панасюк іншую адміністрацыйную справу за непавагу да суда – яна не атрымала позву, таму і не з'явілася на паседжанне суда, якое павінна было адбыцца яшчэ 7 верасня. За гэта Паліне пагражае яшчэ да 15 сутак арышту.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**

## Армения отделилась Россией от Беларуси

Вопрос присоединения Армении к Союзу Россия-Беларусь (СРБ) не входит во внешнеполитическую повестку армянского государства. Как передает CNA, с такой констатацией в очередной раз выступил глава Армении Роберт Кочарян на встрече с российскими СМИ. Армения приветствует Союз России и Беларуси, который, очевидно, основан на взаимной заинтересованности, но в плане Еревана такой заинтересованности нет, сказал президент. Отсутствие общей границы, неэффективность опосредованных контактов и ряд других обстоятельств, по его оценке, создадут ряд проблем. Кроме того, отметил Кочарян, идею присоединения к СРБ отвергают политические силы республики, усматривая в этом ущемление суверенитета страны. Взамен, отметил Кочарян, динамично развиваются армяно-российские отношения. О возможности вступления Армении в СРБ в июне говорил спикер ГД Геннадий Селезнев. Интерес к этой идее высказали армянские коммунисты. Коммунисты Азербайджана также обсуждали вступление в СРБ, причем собирались опередить в этом армянских коллег, сообщает бакинское издание «Эхо». Лидер КП Азербайджана Рамиз Ахмедов полагал, что это обеспечит благоприятное для Азербайджана решение карабахской проблемы.

# «Галодны бунт» рабочых МТЗ

### *Грошы на зарплату скончыліся адразу пасля выбараў*

Першы «галодны бунт» пасля выбараў у нібыта спакойнай Беларусі адбыўся ў Мінску 28 верасня. Яго ўчынілі да 800 рабочых Мінскага трактарнага завода, якім на працягу двух тыдняў не выплачвалі заробак.

Каля 11.00 у мінулую пятніцу 300 рабочых выйшлі на вуліцу Даўгабродская, што праходзіць побач з МТЗ, і перакрылі яе. У якасці апраўдання сваім дзеянням рабочыя патлумачылі, што ім мусілі выплаціць заробак яшчэ 13 верасня, але з таго часу раздавалі абяцанкі «разлічыцца заўтра». Апошні тэрмін, прызначаны адміністрацыяй завода, – раніца 28 верасня. Калі ў гэты дзень працоўныя даведаліся, што заробку не будзе, то пайшлі на радыкальныя захады.

Як вядома, па вуліцы Даўгабродская праходзяць трамвайныя рэйкі, яны звязваюць Партызанскі і Заводскі раёны сталіцы, у тым ліку – мікраraён Серабранка, з цэнтрам горада і мікраraёнам Зялёны Луг. Таму блакаванне вуліцы рабочымі МТЗ літаральна спаралюшавала трамвайны рух і стварыла шмат праблемаў пасажырам.

Рабочыя ліцейных і кавальскіх цэхаў, якія, у асноўным, і праводзілі акцыю пратэсту, спасылаліся на пункт калектыўнай дамовы, які дазваляе затрымліваць заробак супрацоўнікам на 10 дзён. Але не болей. Па словах удзельнікаў акцыі, затрымкі з выплатай заробку на МТЗ маюць хранічны характар і працягваюцца ўжо колькі месяцаў.

Вакол калоны рабочых, што перакрылі дарожны рух, хадзілі нешматлікія міліцыянты і патрабавалі разысціся. Але яны не былі шчыравалі – відавочна, што колькасная перавага была на баку галодных рабочых. Увесь час да маніфестантаў падыходзілі ўсё новыя людзі. Яны таксама далучаліся да акцыі.

Заканчэнне на стар.3

## Ціснуць на школьнікаў за ліст Лукашэнку

У некаторых школах Салігорска распачаўся націск на вучняў, якія падпісаліся пад лістом да прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі.

Як паведамілі салігорскія арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) і Беларускага Хельсінкскага камітэта, у ліцэі, які быў адпраўлены некалькі дзён таму, дзеці прасілі Аляксандра Лукашэнку дапамагчы дабудаваць сярэднюю школу № 13 – яе будаўніцтва было распачатае яшчэ напачатку 90-х гадоў. У ліцэі, у прыватнасці, выказвалася неразуменне наконт таго, што ў дзяржавы не знаходзіцца грошай на будаўніцтва школы, у той час як па ўсёй краіне ўзводзіцца лядовыя палацы.

26 верасня школьнікі аднеслі копію свайго пасланія ў прыёмную старшыні гарвыканкама, а ўжо 27 верасня ў школах пачалася «прапрацоўка» вучняў, якія падпісаліся пад лістом. Напрыклад, дырэктар сярэдняй школы № 6 Галіна Цяраева выклікала ў свой кабінет вучняў і патрабавала напісаць тлумачальныя запіскі. Каменціруючы свае дзеянні старшыні салігорскага аддзялення АГП, члену савета салігорскага аддзялення БХК Ларысе Насановіч, Галіна Цяраева назвала ліст школьнікаў «палітычным», а таксама заявіла, што дзеці не мелі права пісаць такі ліст без дазволу дарослых. Пісьмовыя тлумачэнні патрабавалі таксама ад вучняў сярэдняй школы №3 Салігорска. Пры гэтым іх запалохвалі пракуратурай.

Старшыня салігорскага аддзялення БХК Леанід Мархотка так пракаментаваў сітуацыю: «Гэтымі днямі ў нашым горадзе ідзе татальнае парушэнне правоў дзіцяці на недатыкальнасць асобы, свабоду выказваць сваё меркаванне і звяртацца з просьбамі ў дзяржаўныя інстанцыі. Дзецям за рэалізацыю гэтага права ўжо абвешчаныя ўладамі горада палітычна ненадзейнымі».

**Наталля КУЛАГІНА**

## Кожны стаіць на сваім

Апазіцыйная і афіцыйная дэлегацыі Беларусі прытрымліваюцца абсалютна процілеглых поглядаў на выніку сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая прайшла 24-28 верасня ў Страсбургу. Кіраўнік апазіцыйнай дэлегацыі Анатоль Лябедзька заяўляе пра непрызнанне прэзідэнцкіх выбараў і немагчымае аднаўленне статусу «спецыяльна запрошанага» ў ПА СЕ бліжэйшым часам, у той час як намеснік старшыні палаты прадстаўнікоў Уладзімір Канаплёў упэўнены, што на наступнай вясновай сесіі ПА СЕ статус «спецыяльна запрошанага» для Беларусі аднавіць. Варта нагадаць, што на гэтай сесіі разглядалася беларускае пытанне, хаця яно і не было прыярытэтным.

А.Лябедзька заяўляе, што запрашэнні з ПА СЕ атрымалі абедзве дэлегацыі, і ў іх быў аднолькавы статус – без права ўдзельнічаць у пленарных паседжаннях сесіі.

Заканчэнне на стар.3

**З тэхнічных прычынаў, не залежных ад рэдакцыі, наступны нумар НАШАЙ СВАБОДЫ выйдзе у пятніцу, 5 кастрычніка.**

## Размовы падаражэлі

З 29 верасня ў Беларусі на 5% павялічыліся тарыфы на паслугі электрасувязі. Цяпер 1 хвіліна размоваў у межах вобласці будзе каштаваць 8,25 рубля, у межах краіны – 16,5 рубля.

## Для даследаванняў бюджэту і падаткаў

Міністэрства фінансаў Беларусі выдзеліць 22 мільёны рублёў на развіццё ўласнага навукова-даследчага цэнтра. Рашэнне аб стварэнні пры мінфіне ўласнага навукова-даследчага цэнтра было прынятае урадам у канцы мінулага года.

## Растуць кошты на цыгарэты

У Беларусі падаражэлі тытунёвыя вырабы. Міністэрства гандлю выдала пастанову, паводле якой на 1,6% падвысіліся кошты на прадукцыю Гродзенскай тытунёвай фабрыкі «Нёман» і на 3% – на цыгарэты сумеснага прадпрыемства «Табак-Инвест».

## Буйная аварыя над Дняпром

27 верасня ў Магілёве адбылася самая буйная сёлета аўтааварыя. На новым мосце цераз раку Дняпро сутыкнуліся адразу 14 машын і аўтобус. Пяць чалавек былі дастаўленыя ў гарадскую бальніцу. У аўтобусе ніхто не пацярпеў. Па адной з версіяў прычынай аварыі мог стаць галалёд.

## Фотафестываль партрэтаў

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры адкрыўся фестываль мастацкай фатаграфіі «Сутокі». Асноўны жанр – партрэт. У музеі праходзяць дзве выставы: «Мастацтва фотапартрэта: у пошуках традыцыяў. 1860-ыя – 1940-ыя гады» і «Беларускі фотапартрэт. 1960-ыя – 2001-ыя гады».

## У Балгарыю з медстрахоўкай

Навіна для тых, хто любіць адпачываць у Балгарыі. З 1 снежня 2001 года грамадзяне Беларусі, якія будуць наведваць Балгарыю ці праяжджаць транзітам праз тэрыторыю гэтай краіны, павінны будуць мець абавязковую медыцынскую страхоўку.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1500**



## Іск супраць «Пагоні» могуць адхіліць

27 верасня суддзя Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь Валерый Жандараў прыняў рашэнне перанесці на 5 кастрычніка разгляд справы аб закрыцці гродзенскай недзяржаўнай газеты «Пагоня».

Прычынай пераносу стала непрадстаўленне істцом — Гродзенскай абласной пракуратурай — усіх неабходных для разгляду справы дакументаў. Так, 27 жніўня пракуратура накіравала ў Вышэйшы гаспадарчы суд іскавую заяву ад імя Дзяржаўнага камітэта па друку «ў інтарэсах дзяржавы». Аднак за тры дні да сённяшняга паседжання пракуратура накіравала ў адрас суда дадатковыя патрабаванні да іскавай заявы. Копіі гэтых дакументаў не былі прадстаўленыя рэдакцыі «Пагоні», што з'яўляецца парушэннем заканадаўства. 27 верасня ў судзе Дзяржаўны камітэт па друку, у асобе начальніка юрыдычнага аддзела Лiлii Багдан, заявіў, што адмаўляецца ад іскавай заявы. Пры гэтым было падкрэслена, што «Дзяржкамітэт па друку не мае прававых падставаў для падтрымкі прад'яўленых пракуратурай іскавых патрабаванняў».

Галоўны рэдактар «Пагоні» Мікола Маркевіч так выказаўся пасля прыняцця рашэння аб пераносе судовага працэсу: «Прэтэнзіі пракуратуры да «Пагоні» не грунтуюцца на законе, маюць відавочныя прыкметы палітычнага заказу. Я ўпэўнены, што пры ўмове, калі на суд не будзе аказана ўціску, то іск пракуратуры будзе адхілены».

**Павел МАЖЭЙКА**

## Ад станка — у карабейнікі

Народжаная масавым беспрацоўем прафесія «чаўнака» ўзаконеная зараз на Пінскім ААТ «Палессе».

Гендырэктар прадпрыемства Аляксандр Гулевіч падпісаў загад аб магчымасці ў тым ліку для радавых станочнікаў браць пад рэалізацыю заляжалую на складах прадукцыю, мець ад гэтага заробак і прэміяльныя працэнты. I хаця незайздросную долю карабейнікаў большасць з 4-тысячнага калектыву пінскіх трыкатажнікаў спазналі нашмат раней, але гэтым разам адміністрацыя абяцае не чыніць дысцыплінарны пераслед за працяглую адсутнасць на працоўным месцы і не пазбаўляць мінімуму сацыяльных гарантыяў.

На фабрыках і ў цэхах прадпрыемства адразу пайшло фарміраванне брыгадаў для выязнога гандлю на расійскіх рынках ад Урала да Камчаткі. Там ужо наступаюць маразы, і можа быць павышаны попыт на цёплае адзенне пінскай вытворчасці. 83 рэалізатары накіроўвае фабрыка верхняга трыкатажу, 25 — камвольная, 18 — абъёмнай пражы, 18 — дапаможная служба і кіруючы персанал. Гэтыя людзі вымушаны рызыкаваць сваім здароўем, адказнасцю за тавар, каб хоць такім чынам зарабіць самім і прывезці грашовую выручку для зарплаты іншым.

**Галіна БАРАВАЯ**

## Крымінальная справа супраць міліцыянтаў



2 кастрычніка ў судзе Кастрычніцкага раёна Мінска пачнецца разгляд крымінальнай справы ў дачыненні да пяці афіцэраў міліцыі, супрацоўнікаў упраўлення ўнутраных справаў Першамайскага раёна сталіцы. Ім у сукупнасці прад'яўленыя абвінавачанні ў перавышэнні ўлады ці службовых паўнамоцтваў, нанясенні цялесных пашкоджанняў, незаконных дзеяннях у дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і іншым.

Перад судом паўстануць намеснік начальніка аддзела крымінальнага вышуку, тры оперуўпаўнаважаныя крымінальнага вышуку і ўчастковы інспектар. На працягу 1998-2001 гадоў яны прымянялі да некаторых падазроных жорсткае збіццё і катаванні, дамагаючыся прызнанняў. Адзін з абвінавачаных супрацоўнікаў міліцыі завалодаў кватэрай грамадзяніна, які знаходзіўся ў зняволенні, і больш за год жыў там разам са сваёй прыяцелькай. Абвінавачаны ўчастковы інспектар займаўся маштабным паборамі з прадпрымальнікаў, якія гандлююць ля кінатэатра «Вільнюс». Усе абвінавачаныя, аднак, адмаўляюць сваю віну.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Беларусь предлагает модернизировать армию Македонии

Министр обороны Беларуси генерал-полковник Леонид Мальцев впервые встретился со своим коллегой из Македонии Владо Бучковским.

Два министра обороны обсудили возможности развития военно-технического сотрудничества на основе взаимных интересов. Л.Мальцев предложил услуги Беларуси в модернизации македонских танков, вертолетов и самолетов «на выгодных условиях». Однако эксперты из Македонии должны будут еще определить правовые рамки этого сотрудничества.

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

КРЫМІНАЛ

## Суд мусіць быць адкрытым

Кіраўнік Цэнтра прававой дапамогі Беларускай асацыяцыі журналістаў Міхаіл Пастухоў перакананы, што суд па справе Валерыя Ігнатовіча і яшчэ некалькіх чалавек, якія абвінавачваюцца, у прыватнасці, у выкраданні аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, павінен быць адкрытым. Працэс павінен распачацца 23 кастрычніка.

У інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН прафесар Пастухоў сказаў, што ўлады наўмысна зрабілі працэс закрытым, каб грамадскасць не даведалася пра ўсе абставіны гэтай справы. Аднак БАЖ, тым не менш, мае намер звярнуцца ў Мінскі абласны суд з тым, каб прадстаўнікам гэтай арганізацыі, членам якой з'яўляўся Дзмітрый Завадскі, было прадастаўлена права назіраць за працэсам. «Хаця асабіста я не спадзяюся, што гэты ліст будзе вырашаны станоўча, – адзначыў Пастухоў. – Я думаю, што ўлады спецыяльна выкарыстоўваюць падобную тактыку для таго, каб утаіць ад грамадскасці ўсе абставіны гэтай сумніўнай, са шматлікімі «белымі плямамі» справы. Але ўладам трэба нейкім чынам зрабіць справаздачу, паказаць, што расследаванне ідзе. Для гэтага і арганізаваны суд. Але самае галоўнае пытанне застаецца адкрытым – дзе Дзмітрый Завадскі? Пакуль мы не атрымаем адказу, расследаванне ніяк нельга лічыць завершаным».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

ЛЮСТРАФАКТ



Фота IREX/ProMedia

Беларускія прыгажуні віталі «Дажынкі» барабанным боем

ТРАНСПАРТ

## На «Дажынкі» — толькі на камбайне

У сувязі з вялікай колькасцю гасцей з розных месцаў Беларусі, а таксама Расіі і Украіны, што прыехалі на Рэспубліканскі фестываль-кірмаш «Дажынкі-2001», які прайшоў 28 верасня ў Мазыры, у горад фактычна быў забаронены ўезд асабістага аўтатранспарту.

Як паведаміў начальнік ДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Кузьменка, з меркаванняў бяспекі да месцаў правядзення свята ўраджаю грамадзяне на асабістых аўтамабілях не дапускаліся. Для аўтатранспарту абсталяваныя стаянкі на пад'ездзе да горада, а іх уладальнікаў дастаўлялі ў раённы цэнтр рэйсавыя аўтобусы. Мазырскі гарадскі аўтапарк № 2 адмыслова распрацаваў 16 маршрутаў.

**Ірына ШАНЦАВА**

## Дэпартацыя таджыкаў у Баранавічах

У рэжыме рэгулярнай дэпартацыі ўсталяваліся ўзаемаадносіны прыезджых у Баранавічы таджыкаў і тамтэйшых міліцыянераў з пашпартна-візавай службы.

Людзі з Усходу наведваюць дом сваёй зямлячкі на вуліцы Тарфяная, збіраюцца тут па некалькі сем'яў. Летам, прыкладам, адначасова размяшчаліся 10 дарослых і 29 дзяцей. Ад малых і існуюць праблемы, бо іх няўрымслівая чарада палоніць на вуліцы мінакоў і патрабуе грошы альбо якую-небудзь іншую даніну. Калі гэта дзеці, то адны азіяты дражняцца, а іншыя спрытна апустошваюць кішэні і школьныя ранцы.

Паводле выпадкаў такога нахабства на таджыкаў было складзена 11 адміністратыўных пратаколаў, а на траіх дарослых мужчынаў вынесеная пастанова аб прымусовай дэпартацыі. Праз некаторы час працэдуру дэпартацыі давялося паўтарыць зноў. Таджыкам нішто не перашкаджае вярнуцца назад праз некалькі дзён, бо мяжа Беларусі адкрытая з усходняга напрамку, а бязвізавы рэжым дазваляе нават няпрошаным гасцям атабарыцца хоць на першым вакзале ў Беларусі ажно на 90 сутак на працягу аднаго года.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Жыхарства Магілёўшчыны радзее

З пачатку года колькасць жыхароў Магілёўскай вобласці скарацілася на 5,1 тысячы чалавек (0,4%) і склала 1 мільён 195,8 тысячы чалавек.

Асноўнай прычынай дэмаграфічнага крызісу сацыёлагі называюць перавышэнне ўзроўню смяротнасці над нараджальнасцю, нежаданне з-за фінансавых і жыллёвых праблем маладых сем'яў заводзіць больш за адно дзіця, нерацыянальнае харчаванне. Згодна са статыстычнымі звесткамі, у студзені-ліпені бягучага года на Магілёўшчыне нарадзіліся 6,5 тысячы дзяцей, памерлі 10,6 тысячы чалавек, прычым кожны пяты ў працаздольным узросце.

**Канстанцін УВАРАЎ**

ФІНАНСЫ

## Крэдыт для школ і садкоў

26 верасня ў Вашынгтоне было падпісанае пагадненне аб прадастаўленні Беларусі пазыкі Сусветнага банка (СБ) у памеры 22,6 мільёна долараў.

Як паведамілі БелаПАН у прадстаўніцтве СБ у Беларусі, крэдыт прадастаўлены на 16,5 гадоў з адтэрміноўкай выплаты асноўнай сумы на 4,5 гады. Працэнтная стаўка па крэдыце залежыць ад міжнароднага фінансавага індэкса *LIBO* і на сёння складае каля 7% гадавых.

Грошы маюць быць накіраваныя на рэканструкцыю сістэмаў ацяплення, цеплаізаляцыі і асвятлення ў прыкладна 500 школах, бальніцах і дзіцячых садках Беларусі. Праект прадугледжвае пабудову новых кацельняў з аўтаматычным кантролем тэмпературы; замену паравых катлоў; замену ці рамонт вокнаў; ізаляцыю сценаў і дахаў і замену трубаў на некаторых аб'ектах; замену старых асвятляльных прыбораў на больш эфектыўныя.

Гэта першая пазыка, прадастаўленая Сусветным банкам Беларусі пасля 1994 года, калі ў краіне запаволіліся эканамічныя рэформы. У 1997 годзе СБ паставіў аднаўленне пазыкаў у залежнасць ад лібералізацыі абменнага курсу беларускага рубля. Гэтая ўмова была выкананая ўвосень 2000 года, і з таго часу ішлі перамовы аб гэтым крэдытным праекце.

**Алесь АБРАМОВІЧ**



## Пра што нельга гаварыць пісьменнікам?

Кіраўніцтва Беларускай аграрна-тэхнічнай акадэміі (БАТУ) запатрабавала ад вядомага пісьменніка Уладзіміра Арлова не дапускаць на сустрэчы са студэнтамі выказванняў супраць дзеючай улады.

Як паведаміў старшыня Першамайскай раённай рады «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Алег Шагулін, гэтая сустрэча, прысвечаная прэзентацыі другога выдання кнігі Арлова «Адкуль наш род», адбылася вечарам 26 верасня. Яна планавалася даўно, аднак кіраўніцтва акадэміі, ведаючы грамадзянскую пазіцыю пісьменніка, прапанавала правесці сустрэчу пасля выбараў. «Прычым, нам недвухсэнсоўна намякалі пра змест выступленняў, а 24 верасня намеснік рэктара па выхаваўчай працы прапанаваў кіраўніку дзеючай у акадэміі арганізацыі ТБМ, дацэнту Юліяну Бізэ: няхай Арлоў дасць распіску, што падчас сустрэчы не будзе выказвацца супраць дзеючага рэжыму», – расказаў Шагулін.

**Марат ГАРАВЫ**

## Сабачы перапіс

Грашовы збор за выдачу новага «пашпарта» пры рэгістрацыі дробнай хатняй жывёлы і ўручэнне адмысловага жэтона ўведзены Брэсцкім аблвыканкамам.

За ката патрабуюць 15% мінімальнай зарплаты, за сабаку — 30%. Яшчэ адзін 10-працэнтны збор з уладальнікаў сабак будуць браць штомесяц. Выкананне рашэння мясцовай улады ускладзенае на сельвыканкамы ў вёсках і на жыллёва-камунальныя гаспадаркі ў гарадах.

Вынікі сабачага перапісу будуць хутчэй адмоўныя, і не таму, што людзі не захочуць плаціць за сваіх прыручаных сяброў меншых. У вобласці спрабуюць рэгламентаваць беспакараную дзейнасць так званых «ведамстваў шарыкавых». Пад выглядам барацьбы з нібыта разносчыкамі вірусу шаленства на вуліцах цяпер жывадзёры не пакінуць здабычу, нават калі яна будзе ўцякаць у сваю падваротню. За кожную забітую галаву «бадзягаў» плата будзе з фонду рэгістрацыі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

БІЗНЕС

## Еўрападатак для казіно

У Беларусі зменены стаўкі падатку на ігральны бізнес, а таксама парадак выплаты гэтага падатку.

Дагэтуль стаўкі падатку на ігральны бізнес устанаўліваліся ў памеры, кратным мінімальнай заработнай плаце. Цяпер пастановай урада стаўкі ўстаноўлены ў еўра. Згодна з новым парадкам, падатак на ігральны бізнес выплачваецца ў беларускіх рублях, зыходзячы з устаноўленага Нацыянальным банкам афіцыйнага курсу беларускага рубля да еўра на першае чысло справаздачнага месяца.

Устаноўленыя таксама стаўкі падатку на адзінку падаткаабкладання за месяц, памеры якіх разлічаныя для Мінска, абласных цэнтраў і іншых населеных пунктаў. Напрыклад, у сталіцы месячная стаўка за ігральны стол у казіно да 10 сталоў складзе 3,5 тысячы еўра, у казіно больш за 10 сталоў — 4 тысячы еўра. Стаўка падатку за ігральны аўтамат у Мінску за месяц устаноўленая ў памеры 100 еўра, за касу таталізатара — 1,5 тысячы, касу букмекерскай канторы — 200 еўра. Памеры аналагічных ставак для абласных цэнтраў і іншых населеных пунктаў крыху ніжэйшыя.

**Аляксей АРЭШКА**

ПОМНІК

## Ад сінагогі засталася адна сцяна

Пытанне аб лёсе будынка былой мінскай сінагогі, пабудаванай у 70-я гады XIX стагоддзя, можа быць разгледжанае гарадской пракуратурай ужо бліжэйшымі днямі. Пра гэта паведаміў БелаПАН начальнік аддзела агульнага нагляду пракуратуры горада Мінска Аляксандр Сухаверка.

Ён паведаміў, што ў сувязі са зносам будынка па вуліцы Дзімітрава, дзе некалі месцілася сінагога, у аддзел паступілі дзве заявы — ад прэзідэнта Сусветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў (грамадскай арганізацыі, зарэгістраванай у ЗША) Якава Гутмана і кіраўніцтва ЗАТ «Камкон», якое мае намер будаваць на месцы знесенага будынка жылы дом. «Цяпер праводзіцца праверка фактаў, названых у заявах», — сказаў Аляксандр Сухаверка.

Нагадаем, што працы па зносе будынка пачаліся 21 верасня. 26 верасня, у сувязі з актыўным пратэстам грамадскасці, яны былі прыпыненыя, аднак ужо на наступны дзень разбурэнне аднавілася. І хаця 28 верасня ўсе працы на будаўнічай пляцоўцы зноў былі прыпыненыя, ад старой сінагогі засталася толькі адна сцяна.

**Марат ГАРАВЫ**

# «Галодны бунт» рабочых МТЗ

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*


Грошы даюць!

Праз колькі часу да ўдзельнікаў акцыі пратэсту выйшаў выконваючы абавязкі кіраўніка МТЗ – намесьнік дырэктара Леанід Крупец. Ён заявіў, што грошы працоўным ужо з'явіліся і іх пачнуць выдаваць у аддзяленнях ААБ «Беларусбанк» у другой палове дня. Ён дадаў, што калі грошай не будзе пасля абеду, то ён сам «выйдзе на рэйкі».

На Даўгабродскую прыехаў і намесьнік кіраўніка Мінскага гарвыканкама Мікалай Ярохаў. Ён паведаміў, што пра канфліктную сітуацыю на МТЗ было паведамлена ўсяму кіраўніцтву Беларусі, у тым ліку – прэм'ер-міністру і прэзідэнту. Ён таксама прасіў рабочых разысціся, але марна.

Акцыя пратэсту скончылася толькі пасля 13.00 – калі некаторыя рабочыя наведаліся ў аддзяленні «Беларусбанка» і паведамілі астатнім, што сапраўды грошы даюць.

У гэты дзень аддзяленні «Беларусбанка», якія займаюцца выдачай, працавалі без абеду і да 21-й гадзіны. Тысячы людзей змагаліся ў велічэзных чэргах за права атрымаць свае заробленыя сумленнай працай грошы. Да акенца касы нельга было прабіцца. Выдача грошай працягвалася і ў суботу.

Такім чынам, на гэты месяц канфлікт «рабочыя-адміністрацыя» скончыўся – перамогай рабочых. Але што будзе ў наступным месяцы?

Відавочна, што калі б не перакрыцьцё вуліцы, то рабочыя чакалі б сваіх грошай яшчэ доўга. Сродкі знайшліся «ў аўральным рэжыме» – ці знойдуцца зноў? Магчыма, што рабочым МТЗ зараз раздалі грошы не заўсёды, а бюджэтніцы – каб спыніць надта небясьпечную акцыю пратэсту.

Насамрэч, гэтая акцыя па перакрыцьці вуліцы – вельмі гучная аплявуха рэжыму Лукашэнкі, які нястомна сцьвярджаў пра «стабільнасць і дабрабыт у краіне» на працягу некалькіх месяцаў запар, да пачатку прэзідэнцкіх выбараў. Цяпер выбары скончыліся; грошы, трэба разумець, таксама.

І сапраўдным здзекам над пачуцьцямі гэтых рабочых, якія на працягу двух тыдняў жылі ў чаканні заробку і якіх дома сустракалі галодныя жонкі і дзеці, прагучала на наступны дзень, у суботу, прамова мінскага мэра Міхаіла Якаўлева на сьвятkаванні «Дажынак» у Мазыры. Ён падзякаваў сельскай гаспадарцы за добры ўраджай і падараваў ёй – у асобе міністра Міхаіла Русага – 30 трактароў МТЗ.

Такім чынам, гарадскія ўлады раздорваюць трактары, а тым часам рабочыя, якія тыя трактары збіралі, не змаглі атрымаць заробку ў час.

Дарэчы, на «Дажынках» прысутнічаў, сярод іншых, і генеральны дырэктар МТЗ Міхаіл Лявонаў. Ён, мусіць, добра адпачыў на сьвяце – далёка ад сваіх галодных апанентаў, якіх на заводзе налічваецца больш за 20.000.

**Расьціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Крок да капіталізму

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

«На волю» адпускаюцца цэны на малочныя прадукты – малако і кефір, смятану, тварог; сельскагаспадарчую прадукцыю – бульбу, іншую садавіну і гародніну; дзіцячае харчаванне – малочныя сумесі, мясныя і плодаагароднінныя кансервы; тавары для дзяцей. Апроч таго, «вызваліліся» тарыфы на паслугі хімчыстак і пральняў, у тым ліку – пральні самаабслугоўвання.

Як вядома, кіраўніцтва Беларусі заўсёды дэкларавала пабудову «сацыяльнай дзяржавы». У рамках гэтага «даўгабуду» прымусова рэгуляваліся шмат якія цэны, якія дазвалялі пенсіянерам і іншым ільготнікам упэўнена пачувацца сярод сваіх калегаў з суседніх краінаў. Яны ж у абмен на гэтыя сацыяльныя даброты забясьпечвалі падтрымку дзейнай уладзе.

Іншы бок – бок уласна вытворцаў тых тавараў і паслугаў, цэны на якія рэгуляваліся. Іхнія інтарэсы заставаліся няўлічанымі, і гэта цягнула вялізныя страты. Калі Савет міністраў нарэшце вырашыў заняцца гэтай праблемай – значыць, харчовая прамысловасьць Беларусі сапраўды апынулася пад пагрозай. Бо рызыка пачатку «народнага гнеў» занадта вялікая.

Цяпер можна з упэўненасьцю чакаць росту цэнаў на ўсе ўзгаданыя прадукты: вытворцам неабходна выйсьці хаця б на «нулявы» варыянт – каб не несьці страты. Пажаданы таксама нейкі «плюс» – але атрымлівацьсупэрпрыбыткі прадпрыемствам не дадуць кантралюючыя органы.

Няшмат засталося іншых тавараў і паслугаў, якія ўваходзяць у сьпіс сацыяльна значных тавараў, цэны на якія ўстанаўлівае дзяржава. Сярод іх – хлеб і хлебабулачныя вырабы, масла, алавічына, сьвініна, вараныя каўбасныя вырабы, соль, цукар, запалкі, рамонт абутку і некаторыя іншыя.

Дарэчы, разам з абяцаньнямі некаторых уладных чыноўнікаў яшчэ да заканчэння года падняць кватэрную плату ў 5-6 разоў – г. зн. да 20-40 долараў у месяц, усе салодкія словы А.Лукашэнкі пра гарантаваны заробак у 100 долараў падаюцца ўжо не такімі прыемнымі.

Нагадаем таксама, што ў 1994 годзе, праз які месяц пасля прыходу А.Лукашэнкі да ўлады былі адменены ўсе льготныя кошты на сацыяльна значныя тавары – хлеб, малако і г.д. Гэтыя даброты дасталіся тады прэзідэнту ў спадчыну ад «ненавіснага» Вячаслава Кебіча. Некаторыя захады па аздараўленні беларускага рынку былі тады насцярожана сустрэтыя аматарамі «халявы», але спадабаліся тагачасным «рынкачнікам». Потым час расставіў усе кропкі над і – стала зразумела, які лагер насамрэч прадстаўляе А.Лукашэнка. З таго часу прайшло ўжо сем гадоў, і, здаецца, гісторыя паўтараецца.

Смачна вам есьці, шаноўныя чытачы!

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Зволнены сьведка ў справе зьніклых

*Звольнілі зь міліцыі бяз пэнсіі ды грашовай дапамогі палкоўніка Алега Алкаева, які сьведчыў супраць найвышэйшых кіраўнікоў краіны ў справах Захаранкі, Ганчара і Красоўскага.*



Зьвесткі пра звальненьне Алега Алкаева і абставіны гэтага звальненьня Свабодзе паведаміла жонка Алкаева Ірына. Яна сьцьвярджае, што Алег Алкаеў звольнены з фармулёўкай «на асабістае жаданьне», хаця ў заяве кіраўніцтву ён прасіў звольніць яго «за выслугу гадоў». Розьніца, аказваецца, вельмі істотная.

З-за іншай фармулёўкі 48-гадовы Алкаеў ня будзе атрымліваць пэнсіі два гады, пакуль яму ня споўніцца 50. Таксама палкоўніка пазбавілі грашовай дапамогі на некалькі месячных заробкаў, якую выплачваюць міліцыянту па выхадзе на пэнсію паводле выслугі гадоў. Страціў Алкаеў і яшчэ некаторыя прывілеі, што гарантуюцца палкоўніку ўнутраных справаў на пэнсіі.

«Муж усё яшчэ знаходзіцца ў Нямеччыне, яму падоўжылі гасьцявую візу, але ў матэрыяльным пляне ягонае становішча зараз вельмі кепскае. Ён нават ня можа сабе дазволіць тэлефанаваць дадому. Безумоўна, ён сапраўды мужны і прынцыповы чалавек, але вось да чаго ўсё гэта прывяло... Мы нават ня можам быць разам. Але тут яму небясьпечна. Я катэгарычна супраць ягонага вяртаньня ў Менск», – сказала Ірына Алкаева.

Спадарыня Алкаева лічыць, што мужу адпомсьцілі за праўду, якую ён рызыкнуў паведаміць у сваім рапарце.

Нагадаю, былы начальнік менскага сьледчага ізалятара палкоўнік Алег Алкаеў ёсьць аўтарам вядомага рапарту на імя міністра ўнутраных справаў Навумава, у якім паведамляецца пра шэраг абставінаў адносна справаў Юр'я Захаранкі, Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага.

У прыватнасьці, Алкаеў згадаў, што быццам ў траўні і ў сярэдзіне верасьня 1999 году на загад тагачаснага міністра ўнутраных справаў Сівакова ён мусіў выдаваць пэўным асобам адмысловы пісталет, якім выконваюць сьмяротныя прысуды.

Аднаго разу пісталет перадавалі камандзіру асобага атраду СОБР унутраных войскаў Дзьмітрыю Паўлічэнку, сьведчыў Алкаеў. Пісталет вяртаўся нячышчаны ды ржавы, палкоўніку не паведамлялі, дзеля чаго яго выкарыстоўвалі.

Між тым, Алкаеў схільны меркаваць, што гэтая зброя спатрэбілася падчас апэрацыяў захопу Захаранкі, Ганчара і Красоўскага. Бо дні выдачы пісталета супалі з днямі, калі зьніклі гэтыя апазыцыянэры.

Рапарт Алкаева стаў вядомы грамадзкасьці падчас прэзідэнцкай кампаніі. Тады ж стала вядома, што Алег Алкаеў падаў заяву аб звальненьні зь міліцыі і зьехаў у Нямеччыну да сваякоў. У інтэрвію зь Нямеччыны ён прапанаваў настойваць на сваіх паказаньнях і нават абвінавачваў найвышэйшае кіраўніцтва краіны ў датычнасьці да справаў Захаранкі, Ганчара і Красоўскага. Ён зьвяртаў увагу на тое, што Дзьмітры Паўлічэнка быў спачатку арыштаваны, але неўзабаве вызвалены, калі за яго заступіўся Аляксандар Лукашэнка.

Даючы гэтыя інтэрвію, Алкаеў казаў, што заставацца ў Нямеччыне не зьбіраецца, але з прыездам яшчэ варта пачакаць. «Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў вызначуся», – казаў палкоўнік Алкаеў. Падобна на тое, што свой выбар ён ужо зрабіў.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ, Радыё «Свабода»**

# Працэс Чыгіроў і БТ адкладаецца

Разгляд грамадзянскага іску Міхаіла і Юліі Чыгір да Беларускага тэлебачання ў судзе Першамайскага раёна Мінска зноў прыпынены – да выясненьня прысуду па крымінальнай справе сына – Аляксандра Чыгіра. Такім чынам суддзя Анатоль Аніскевіч задаволіў хадайніцтва юрыдычных прадстаўнікоў адказчыкаў – Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Беларусі і яе супрацоўнікаў – Уладзіміра Мартынава, Дзьмітрыя Косціна, Юрыя Пракопава. (Чацьвёрты адказчык – Яўген Новікаў на паседжанні суда не з'яўляецца). Акрамя таго, да справы далучаны матэрыялы сродкаў масавай інфармацыі, у якіх таксама гаварылася аб вінаватасьці сына Чыгіра. У той жа час суддзя адмовіўся далучаць да матэрыялаў справы звесткі сацыёлагаў аб негатыўным уплыве на рэйтынг Міхаіла Чыгіра сюжэтаў, паказаных па Беларускім тэлебачанні.

Нагадаем, што ў сваім іску Міхаіл і Юлія Чыгіры патрабуюць абвяржэння ілжывых, ганьбячых звестак, распаўсюджаных Беларускім тэлебачаннем літаральна пра ўсіх прадстаўнікоў сям'і, але асабліва пра сына Аляксандра, які 11 лютага 2001 года быў арыштаваны па падазрэнні ў крадзяжах. (Па неаднаразовых сцвярджэннях Чыгіроў, справа іх сына была сфабрыкавана, з мэтай зьняславіць Міхаіла Чыгіра). У якасці кампенсацыі маральнага ўрону яны маюць намер спагнаць з тэлекампаніі і чатырох яе супрацоўнікаў 110 мільёнаў рублёў.

Юлія Чыгір запатрабавала выпіску з пратакола судовага паседжання і мае намер у бліжэйшыя дні абскардзіць рашэнне аб прыпыненні разгляду іску ў Мінскім гарадскім судзе. «У беларускім заканадаўстве ёсць прэзумпцыя невінаватасці, – заявіла яна. – Абвінавачанне чалавека ва ўчыненні злачынства яшчэ да суда з'яўляецца нічым іншым, як ціскам на суд, на следства. Следчым і суддзям значна цяжэй быць аб'ектыўнымі, калі па тэлебачанні неаднаразова абвяшчалі, што падследны і падсудны – злачынца».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Віцебскія дэмакраты дыскутуюць наконт аўтарытэту апазіцыі

Дыскусія аб аўтарытэце апазіцыі як умове яе прыходу да ўлады разгаралася вечарам 28 верасня на паседжанні Віцебскай каардынацыйнай рады дэмакратычных сілаў (КРДС).

Прэтэндуючы на распараджэнне бюджэтам дзяржавы, трэба спачатку зрабіць справаздачу аб выкананні бюджэту апазіцыі – такі быў лейтматыў выступлення лідэра фракцыі «За адзінства» ў абласной арганізацыі БСДП (Народная Грамада) Анатоля Гнеўкі.

У адказ на гэта кіраўнік мясцовага штаба мабілізацыйнай кампаніі «Свядомы выбар» Юрась Корбан заўважыў, што зрабіць «празрыстымі» расходы апазіцыі ў прайшоўшай прэзідэнцкай кампаніі не ўдасца. З гэтай нагоды старшыня віцебскай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Алена Залеская заявіла, што «ў штабах сабраліся не вельмі прыстойныя людзі». Са многімі наёмнымі супрацоўнікамі, зазначыла А.Залеская, яны дагэтуль не разлічыліся.

Запрошаныя на паседжанне КРДС кіраўнікі былых ініцыятыўных групаў Паўла Казлоўскага і Міхаіла Чыгіра выказалі неразуменне з прычыны такой раз'яднанасці ў стане віцебскіх дэмакратаў.

Прапанова старшыні абласной рады «Таварыства беларускай мовы» Іосіфа Навумчыка «вырашаць канкрэтныя справы з жыцця людзей» была запісана ў пратакол паседжання, аднак не абмяркоўвалася і выказаная на паседжанні КРДС прапанова выступіць у абарону інтарэсаў 4.700 студэнтаў Віцебшчыны, якія працуюць на калгасных палетках, а да асэнсавання навучальнай праграмы прыступяць не раней як 6 кастрычніка.

**Леанід СІМАНАЎ**

# Кожны стаіць на сваім

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Кіраўнік групы наглядальнікаў, якая ў час прэзідэнцкіх выбараў прыязджала на Беларусь, даў даведку, асноўны сэнс якой заключаецца ў наступным: «выбары не былі дэмакратычнымі, свабоднымі і адпавядаючымі міжнародным стандартам». «Разам з тым выказана пажаданне развіваць кантакты з усімі палітычнымі сіламі Беларусі, і ў першую чаргу з грамадзянскай супольнасцю», – падкрэсліў А.Лябедзька.

На сесіі ПА СЕ падтрыманая тактычная стратэгія «Крок за крокам» у дачыненні да Беларусі, хаця А.Лябедзька і не разумее, у «чым яе сутнасць», бо нават дэпутаты ПА СЕ ўкладваюць у яе розны сэнс. «Яна азначае ў першую чаргу, што будзе чаканне канкрэтных рэальных крокаў ад беларускіх уладаў; ёсць некаторыя дэпутаты, гатовыя задаволіцца хуткімі дзеяннямі, як, напрыклад, вызваленнем Андрэя Клімава літаральна ў бліжэйшыя тыдні і ўвядзенне мараторыя на смяротную кару. Разам з тым большасць схіляецца да той студзеньскай рэзалюцыі мінулага года ПА СЕ, каб было пастаўленае пытанне аб узнаўленні статусу «спецыяльна запрошанага», якая была сфармуляваная перад мінулагоднімі выбарамі ў парламент: вызваленне ўсіх палітзняволеных, пашырэнне рэальных паўнамоцтваў парламента, доступ апазіцыі да дзяржаўных СМІ», – гаворыць А.Лябедзька.

«Тут у нас гучаць рэляцыі, што быццам бы ледзь не вырашанае пытанне аб узнаўленні статусу «спецыяльна запрошанага» і Беларусь можа стаць паўнапраўным сябрам СЕ. Гэта можа быць выканана толькі пасля таго, калі будуць выкананы названыя ўмовы... Верагоднасць узнаўлення статусу «спецыяльна запрошанага» наступнай вясной вельмі нізкая, але калі, напрыклад, за гэтыя паўгода будуць вызваленыя палітзняволеныя, рэальна пашыраныя паўнамоцтвы парламента і астатнія ўмовы, то наступнай сесіяй гэтае пытанне можа разглядацца. Але толькі разглядацца – якое рашэнне будзе прынятае, сёння вельмі рана прагназаваць», – рэзюмаваў А.Лябедзька.

Уладзімір Канаплёў 28 верасня выказаў поўную ўпэўненасць, што праз паўгода статус «спецыяльна запрошанага» для Беларусі будзе ўзноўлены. Нязменны намеснік старшыні ПП заявіў пра тое, што ў ПА СЕ «намецілася яскравае змяненне падыходаў у адносінах да Беларусі» і што на сесіі ПА СЕ «дакладна прагучала, што статус спецыяльна запрошанага для Беларусі трэба аднаўляць». У.Канаплёў не сумняваецца, што на чарговай сесіі ПА СЕ наступнай вясной статус «спецыяльна запрошанага» для Беларусі будзе аднаўлены. Другі дэпутат палаты Андрэй Лосеў выказаў нават незадавальненне, што надзеі афіцыйнага Мінска верасьнёўская сесія ПА СЕ не апраўдала.

**Рыгор БУЯН**

# Дэмакратыя – плён розуму і дабрыні

*На наша шчасце, іерархічныя праграмы зносінаў – не адзіныя праграмы зносінаў, закладзеныя некалі ў нас натуральным адборам. Існуюць альтэрнатыўныя праграмы, на падставе якіх мы можам ладзіць іншыя стасункі.*

## Абдымкі ды ўсмешкі

Усе малпы лёгка ўзрушваюцца, яны зласлівыя, агрэсіўныя, крыўдлівыя, злапамятлівыя. Але пры гэтым вельмі таварыскія. Супярэчлівае спалучэнне. Нядзіва, што яны маюць шмат спосабаў аслабляць канфлікты. Між рытуалаў вітання, усмешак, паляпвання па спіне, выдавання ежы асаблівая роля надаецца абдымкам. Нашыя бліжэйшыя цяперашнія сваякі – шымпанзэ – вельмі любяць абдымацца. Яны могуць доўга сядзець у абдымку і атрымліваць ад гэтага задавальненне, супакаенне. Найчасцей шымпанзэ абдымаюць адно аднаго, каб папярэдзіць раздражненне, крыўду. І пасьпяхова. Чытачам ведамы адзін від гэтых малпаў, але існуе іншы від (ці падвід) – карлікавы шымпанзэ. Ён вельмі лагодны і ўсміхаецца, як добразычлівае, шчаслівае дзіця. Карлікавыя шымпанзэ жывуць гуртам, захоўваюць іерархію, але ейнае высвятленне адымае няшмат часу. Аднак яны падоўгу супакойваюць, улагоджваюць адно аднаго ўсмешкамі, абдымкамі, чысцяць поўсць, «вышукваюць вошы» ў галаве.

Усе гэтыя праграмы супакойвання (і перабіранне валасоў на галаве) мае і чалавек, і ён умее імі карыстацца. Людзі, як і карлікавыя шымпанзэ, здольныя ладзіць адносіны, дзе агрэсіўнасці амаль няма, іерархія не перашкаджае дружалюбным прыемным сувязям. Адпаведныя традыцыі ды выхаванне дазваляюць шмат чаго дасягнуць. Некалі амерыканцы ўведалі магічны эфект адной з усмешак чалавека. Ейнае адлюстраванне было ўсюды, ёю ўсміхаліся самыя знаныя ў краіне людзі. Шыльдачкі «Усміхніся!» з'явіліся на дзвярах установаў, касах крамаў. Мінуў час – і Амерыка навучылася ды прызвычаілася ўсміхацца. Напачатку амерыканская задума еўрапейцам падалася дзіўнаю, нават крывадушнай. Калі ж пабачылі вынік – змяншэнне агрэсіўнасці, і яны пачалі вучыцца магічнай усмешцы.

Сакрэт у тым, што, калі два чалавекі ўсміхнуцца адно аднаму, іерархічная праграма кожнага ўспрымае ўсмешку як лагодную, але ўпэўненую гатоўнасць да адпору, а другая праграма – як заахвочванне. У выніку «недзе тамака» прымаецца падсвядомае рашэнне: можна не баяцца, усё абыдзецца без высвятлення іерархічнага становішча, можна палічыць сустрэчнага за роўнага сабе.

Пра свой ранг можна не клапаціцца. Этолагі выявілі: у некаторых відаў калектыўных жывёлаў ёсць асобіны, якія ўхіляюцца ад іерархічных сутычак. Не таму, што баяцца – ім гэта не цікава. Многіх людзей іерархічная барацьба таксама не цікавіць. Дзеля іх існуюць іншыя каштоўнасці, іншыя спосабы самасцверджання. Між шымпанзэ, што жывуць на прыродзе, сустракаюцца асобіны, у тым ліку і мужчынскага полу, якія не займаюць ні самага высокага, ні самага нізкага становішча. Зазвычай у іерархічных сутычках яны ўдзелу не бяруць, а робяць свае справы ці імкнуцца памірыць, прычым пасьпяхова, ворагаў, абдымаюць іх. У гуртах шымпанзэ шмат увагі надаецца сімпатыям, на грунце якіх ладзяцца дружалюбныя сувязі, іншым разам прыязныя і працяглыя. Аказваецца, з самцамі, што не любяць пастаянна сцвярджаць сваё становішча, могуць сябраваць іерархічныя самцы, улучна і высокага рангу.

Апроч стасункаў «на роўных», шымпанзэ маюць заступніцкае сяброўства, калі старэйшы ды мацнейшы абараняе малодшага ды слабейшага, а той паводзіць сябе без падлашчвання. Назіраюцца і іншыя праявы альтруісцкіх паводзінаў: выдаванне ежы, суперажыванне чужых поспехаў, няўдачаў, пакутаў, узаемнае навучанне. Дарослыя сёстры клапоцяцца пра дзіцянят, старэйшыя дочкі дапамагаюць маці.

## Мноства праграмаў дазваляе выбіраць

Антыагрэсіўныя ды альтруісцкія праграмы паводзінаў шымпанзэ, без сумлеву, блізкія да падобных праграмаў нашых паводзінаў. Даследнікі мяркуюць, што іх мелі і продкі чалавека. Але ў шымпанзэ няма набору праграмаў жорсткай іерархіі ды баявой арганізацыі, якія маем мы ды павіяны. Таму гурт шымпанзэ не здольны да складаных і дакладных абарончых дзеянняў і тэрытарыяльных войнаў. Ды яны ім не патрэбныя пры іхным ладзе жыцця ды ўмельстве лазіць па дрэвах, ад якіх яны зазвычай далёка не адыходзяць. Начуюць шымпанзэ таксама ў бяспецы, ладзячы гнёзды на галінах дрэваў.

Падвойны набор праграмаў сацыяльных паводзінаў чалавека дазваляе разнастаіць варыянты, у выніку чаго мы можам утвараць розныя грамадскія структуры – ад жорсткіх аўтарытарных бандаў да амаль пазбаўленых іерархіі клубаў.



## Што такое «інстынкт свабоды»?

Пра гэты «інстынкт» часцяком пішуць гуманітарыі нібы пра нешта бясспрэчнае ды ўласцівае чалавеку. Этолагу цяжка зразумець, што яны маюць на ўвазе і з якімі сапраўды існуючымі ў чалавека інстынктамі яго можна звязаць. Калі «свабода» – гэта магчымасць рабіць, што захочацца, быць незалежным, нікому не падпарадкоўвацца, мець усё, што хочаш, дык гэткай «свабоды» жывёла дасягне, калі зойме вяршыню піраміды, а чалавек – маючы ўладу і багацце. Калі свабода – гэта няўдзел у іерархічных сутычках, дык і такую праграму мы маем, але жыць адпаведна ёй хоча мала хто. Бо яна прадугледжвае, што я не толькі нікому не падпарадкоўваюся, але й нікога не падпарадкоўваю сабе. Дому, маёмасці, сям'і, дзяцей мне лепш не мець: па-першае, гэта ўсё трэба абараняць, а па-другое, яны абмяжоўваюць свабоду. Атрымліваецца свабода індыйскіх гімнапедыяў, старажытнагрэцкіх кінікаў, нядаўніх хіпі, сучасных панкаў ды бяздомных.

Ёсць яшчэ стан «волі» – рабіць менавіта тое, што забаронена мараллю ды нормамі грамадства, і не рабіць таго, што трэба. Схільныя да гэтага шмат якія жывёлы, асабліва маладыя ці якія апынуліся на дне піраміды. Яна выяўляецца ў выглядзе саманавучання ў малых, пратэсту – у падлеткаў, у крымінальнай форме – у зладзеяў, разбойнікаў і да т.п.

Хутчэй за ўсё, некаторыя, гаворачы аб інстынкце свабоды, аб'ядноўваюць усе тры імкненні. У гэткім выглядзе «свабода» недасягальная для ўсіх і разбуральная для грамадства. Калі ж «свабоду жыць, як мне хочацца» абмежаваць пэўнымі прававымі рамкамі, яна хаця б патэнцыяльна здзяйсняльная для бальшыні людзей у больш-менш прававой дэмакратычнай дзяржаве, што прызнае за пункт адліку для ўсіх законаў ды рашэнняў пэўны пералік правоў чалавека.

## Адкуль узялася дэмакратыя?

Дэмакратычная форма арганізацыі нават маленькага грамадства, супраць аўтарытарнага, немагчымая, калі складнікі гэтага грамадства не ўмеюць гаварыць. Толькі мімікай ды рухамі калектыўна не абмяркуеш складаных пытанняў, не выпрацуеш іхнага вырашэння. Таму ніводную калектыўную арганізацыю жывёлаў, нават самую добразычлівую да кожнага ўдзельніка (прыкладам, дэльфіны), нельга менаваць дэмакратыяй у чалавечым разуменні.

Калі дэмакратыя немагчымая без слова, дык, зразумела, да ўзнікнення мовы яе ў нашых продкаў не было. Здаецца, групы загонных паляўнічых – прыдатнае асяроддзе дзеля з'яўлення зародкаў дэмакратычных узаемадачыненняў. Адным з ейных наступнікаў была «ваенная дэмакратыя» напаўрабаўнікоў-напаўгандляроў, што плавалі на караблях. Старажытныя грэкі першыя ажыццявілі яе ў сваіх гарадах, стала змагаючыся з тыраніяй ды алігархіяй, г.зн. будовамі іерархічнымі. Грэкі вынайшлі просты механізм: тыя, хто свабодны, маюць дом, уласнасць, сям'ю, утвараюць сход, дзе прымаюцца законы па абароне гэтых каштоўнасцяў (а яны адпавядаюць інстынктыўным патрэбам чалавека). Гэтакі спосаб, без сумлеву, не дае ўлады самым кампетэнтным, але перашкаджае прарвацца да ўлады самым настырным. Усе спрэчныя пытанні на падставе законаў вырашае суд, дзе кожны мае мажлівасць абвінавачваць і абараняць. Суд ахаваны ад захопу напорыстымі грамадзянамі сваёй шматлікасцю: ён ахоплівае сотні грамадзянаў. Урэшце, людзей, што выявілі схільнасць да захопу ўлады ці набылі небяспечна вялікі ўплыў на грамадзянаў, народны сход паддае астракізму – выгнанню па выніках таемнага галасавання. Сучасная дэмакратыя клапоціцца пра захаванне магчымасці займацца палітыкай тым, хто застаўся ў меншасці (толькі ў межах законных дзеянняў). Грэкі да меншасці гэтак не ставіліся, бо яна была супраць дэмакратычнага ладу, імкнулася яго скінуць.

## Чаму дэмакратыю трэба ўвесь час абараняць?

Ці можа гэткая сістэма з'явіцца сама па сабе, на падставе інстынктыўных праграмаў? Без сумлеву, не. Гэта вынік працы розуму, прадуманая сістэма калектыўнай перашкоды ўтварэнню іерархічнай пірамідальнай структуры з прагнымі да ўлады асобінамі. Яе неабходна падтрымліваць палітычнай актыўнасцю грамадзянаў. Старажытным грэкам не ўдавалася ўтрымаць поліс у стане стабільнай дэмакратыі. Іншым разам, абапіраючыся на падтрымку незадаволеных, уладу захопліваў чарговы важак ды наладжваў аўтарытарны парадак – тыранію. Па ягонай смерці менш рашучыя наступкі ўтваралі алігархію – «калектыўную» ўладу «найлепшых», якая паступова слабела нагэтулькі, што ўдавалася аднавіць дэмакратыю. Арыстоцель вельмі дакладна апісаў гэты кругазварот: дэмакратыя змяняецца на тыранію, тая – на алігархію, а яна – зноў на дэмакратыю. Магчымасць «хады па арыстоцелевым коле» існуе і цяпер, але зусім не абавязковая, як у грэцкіх полісах, бо кожная форма кіравання навучылася сябе абараняць.

Дэмакратычнае грамадства з'явілася і доўга існавала ў Старажытным Рыме, дзе было добра аформлена юрыдычна. Рымляне вынайшлі найбольш эфектыўны, чым жэрабя, метад займання кіроўных пасадаў – выбары праз выбарчую кампанію; гэтакі ж спосаб ужываўся дзеля камплектавання прадстаўнічых калегіяльных органаў. Рымская дэмакратыя дэградавала з прычыны празмернага пашырэння межаў уладанняў гэтага горада-дзяржавы. Ва ўмовах падпарадкавання Рыму ўсё новых народаў дэмакратычная сістэма ператваралася ў цэнтралізаваную імперскую, а ў імперыі дэмакратыя неэфектыўная і таму немагчымая.

## Дэмакратыя з'явіцца з павагі «натуральных правоў»

Зніклая на сотні гадоў, дэмакратыя паступова, крок за крокам, пачала нараджацца ў Англіі, а потым і ў іншых краінах. З аднаго боку, яна скарыстоўвала дасягненні рымскага права, што стваралася блізу тысячу гадоў – ад Законаў 12 табліцаў (450 г. да н.э.) да Кодэксу Юстыніяна (525 г.н.э.). а з другога – грунтавалася на тэорыі пра «дагаворную дзяржаву» Т.Гобса і Дж.Лока. Згодна з гэтай тэорыяй, чалавек спрадвечна (у «натуральным стане») адчувае за сабою права на свабоду ды ўласнасць і хоча, каб яны былі абароненыя ад замахаў, а з другога боку, схільны квапіцца на свабоду і ўласнасць іншых.

З гледзішча сучасных ведаў эталогіі гэта правільна. І тыя і другія прыроджаныя праграмы мае чалавек, але, паводле тэорыі дамоўленасці, у выніку ўзнікае барацьба ўсіх супраць усіх, анархія ды хаос. Этолаг згодны толькі з першай часткай фразы (пра барацьбу). Барацьба сканчаецца не «першабытным хаосам», а іерархічнай структурай, што можа пераўтварыцца ў дзяржаву аўтакратычнага кшталту.

«Тэорыя дамоўленасці» разглядае іншы шлях: узаемазацікаўленыя людзі дамаўляюцца аб абмежаванні сваіх правоў такім чынам, каб права на свабоду ды ўласнасць было забяспечана ўсім. Падчас выпрацоўкі законаў і вырашэння спрэчных пытанняў яны бяруць за аснову маральныя пастулаты, якія мае кожны чалавек. Створаная гэтакім чынам дзяржава – вынік барацьбы розуму супраць «натуральнага стану». Этолагу падабаецца найперш разуменне таго, што маральнасць маецца ў чалавека першапачатна. Яны называюць яе прыроджанай мараллю, прыроджанымі забаронамі. Дзяржава, пабудаваная дзеля абароны правоў чалавека і заснаваная на законах, што вышэй за дзяржаву ды чалавека, — гэта дэмакратычная дзяржава. Жывучы ў ёй, чалавек можа выхоўвацца не ў духу барацьбы за ці супраць чаго-небудзь, а духу дабрачыннасці, пра важнасць чаго гаварыў яшчэ Арыстоцель.

Значыцца, дэмакратыя – вынік барацьбы розуму з тымі жывёльнымі інстынктамі людзей, якія падштурхоўваюць іх самазбірацца ў жорсткія аўтарытарныя іерархічныя сістэмы. Дэмакратыя выкарыстоўвае і дазваляе бальшыні людзей рэалізаваць іншыя інстынктыўныя праграмы, таксама закладзеныя ў чалавеку – жаданне быць свабодным (з зямлёю, домам, сям'ёю ўлучна), забарону забіваць, рабаваць, адбіраць, красці, прыніжаць слабых. Дэмакратыя выкарыстоўвае непазбежную для чалавека пірамідальную смеху арганізацыі ды падпарадкавання, але шляхам выбарчай сістэмы, падзялення заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладаў ды незалежнасцю сродкаў інфармацыі. Гэта пазбаўляе іерархічную структуру яе антыгуманнай сутнасці і вымушае ў значнай ступені працаваць на карысць людзям, а не толькі тым, хто вяршэнствуе. Як сказаў некалі У.Чэрчыль, дэмакратыя не ёсць ідэальная форма кіравання, але яна самая лепшая з усіх формаў, што вынайшаў чалавек.

Чалавек, як і ўсе жывёлы, мае шмат прыроджаных праграмаў паводзінаў (мы нараджаемся з некаторымі ведамі пра навакольны свет ды правіламі паводзінаў у ім), і ў патрэбны момант яны спрацоўваюць.

Гэтыя праграмы ствараліся даўно і ў зусім інакшым асяроддзі, мала падобным да таго, у якім жывём мы. Таму іхнія паводзіны не заўсёды адэкватныя абставінам, рацыянальныя і нават жаданыя. (Не ўсё натуральнае – добра).

З прычыны першапачатнай запраграмаванасці, людзі не надта вольныя ў паводзінах, адзін сцэнарый яны ажыццяўляюць лёгка, іншы – з цяжкасцямі, а некаторыя ўвогуле невыканальныя. (Не ўсе прыдуманыя розумам планы мы можам ажыццявіць).

Для бальшыні сітуацый маецца дастатковы набор альтэрнатыўных праграмаў, на падставе якіх можна пабудаваць некалькі варыянтаў паводзінаў. (Усе мы спрадвеку «ведаем», як красці, і ведаем, што гэта дрэнна; будзем мы зладзеямі ці сумленнымі, залежыць ад нас, а не ад нашае прыроды).

Наш мозг такі, што адказная за свядомасць частка не толькі не можа азнаёміцца са зместам прыроджаных праграмаў, але й не ведае пра іхняе існаванне. Таму, калі праграма пачынае рэалізоўвацца, свядомасць яе абслугоўвае, не заўважаючы гэтага. Яна шукае і знаходзіць нейкія свае тлумачэнні паводзінаў і іхніх матываў, не абавязкова правільныя. (Нельга давярацца ўласнай рэфлексіі, г.зн. самааналізу на падставе суб'ектыўных адчуванняў ды ідэяў, і менталітэту – уяўленню, што існуе, пра падзеі, бо яны падаюць бывае блытаны, тэндэнцыйны і алагічны малюнак).

Галоўная задача пададзенага эсэ – каб чытач атрымаў задавальненне ад знаёмства з эталогіі на прыкладзе не самага вывучанага, але надзвычай цікавага віду нас самых.

**Віктар ДОЛЬНІК**

**ЕЎРАСАЮЗ**

## Два евро в год за многоязычность

Использование нескольких языков в структурах Европейского Союза обходится каждому жителю ЕС в два евро ежегодно. Такие данные распространены Европейской Комиссией. В исполнительном органе ЕС отметили, что на лингвистический фактор повлияет расширение союза, поскольку к одиннадцати уже признанным официальными языкам должны будут добавиться еще десять. Однако эту проблему в ЕС называют «решаемой». В Брюсселе уже готовятся к расширению — так, на официальных сайтах ЕС в интернете появляются страницы на языках стран, которые вскоре планируется принять в Союз. Как отмечается в докладе Еврокомиссии, в настоящее время в работу переводческой службы этой организации вводятся новые технологии, облегчающие работу переводчиков. Так, все большее развитие получает популярность техника «языков-посредников». В этом случае, к примеру, перевод с португальского на финский производится не непосредственно, а через более распространенный язык, английский или французский. Использование нескольких языков позволяет каждому европейскому гражданину понимать тексты документов Евросоюза и принимать участие в их обсуждении. Кроме того, каждый гражданин государства-члена ЕС может обращаться в общеевропейские учреждения на официальном языке своей страны и получать на нем ответы. В настоящее время в ЕС официально признаются одиннадцать языков — английский, голландский, греческий, датский, испанский, итальянский, немецкий, португальский, финский, французский и шведский.

